№ 139 (491)

Серада 5 жніўня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



**Погляд**

## Мечаслаў ГРЫБ, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

# Дакуль на Беларусі будуць парушацца правы чалавека?

На адным з чарговых сходаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання я выступіў з дакладам "Аб парушэннях правоў і свабод чалавека". Некаторыя думкі хочацца данесці і да шырокай грамадскасці. Справа не ў маёй амбіцыёзнасці, самалюбстве, а ў тым, што гаворка ідзе пра надзвычай важныя рэчы. Адначасова — і вельмі складаныя. Што і казаць, большасць нашых людзей маюць цьмянае ўяўленне пра свае правы і свабоды. А калі гаварыць у агульначалавечым, агульнасусветным плане, дык аб гэтым у нас наогул многае замоўчваецца. У той жа час прэзідэнт і яго памагатыя цынічна сцвярджаюць: Беларусь крочыць па дэмакратычным шляху, з правамі чалавека — поўны парадак...

Прыкра гэта чуць, а таму сваім апанентам я адразу скажу: не хлусіце, панове! Давайце лепш звернемся да фактаў.

1994 год. Груба парушаецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, тая самая Канстытуцыя, на якой пры інаўгурацыі прэзідэнт А.Лукашэнка прысягаў, клятвенна абяцаў выконваць яе патрабаванні. Але клятва, як і многія абяцанні прэзідэнта, засталася абяцаннем, а падзеі разгарнуліся, як вам усім вядома, у адваротным накірунку. Парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншага заканадаўства стала хутка пашырацца. Прэзідэнт паставіў сваёй мэтай паралізаваць дзейнасць Вярхоўнага Савета 12-га склікання і не дапусціць абрання Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Але апошняе не атрымалася, нягледзячы на ўсе яго намаганні, нават на зварот-заклік па тэлебачанні да выбаршчыкаў: "Не хадзіць на выбары!". Гэта была перамога Вярхоўнага Савета 12-га склікання, апошняя яго перамога — Вярхоўны Савет 13-га склікання быў абраны. Адбылося гэта пасля васьмі месяцаў палітычнай і выбарчай барацьбы.

Але, на вялікі жаль, новы Вярхоўны Савет не ўлічыў усёй складанасці палітычнай сітуацыі, вопыту барацьбы сваіх папярэднікаў, не прыняў незалежных мер для аб'яднання дэпутатаў у барацьбе за дэмакратыю, пабудову прававой дзяржавы, усталявання правоў чалавека, быў разрознены ў сваіх палітычных поглядах і ў цэлым згодны супрацоўнічаць з прэзідэнтам, нярэдка закрываючы вочы на парушэнні ім Канстытуцыі і іншага заканадаўства. Уцягнуты ў палітычную інтрыговую барацьбу з першага дня свайго існавання, парламент не змог выканаць сваіх асноўных задач: арганізаваць і правесці давыбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Не змог таму, што гэта не падабалася прэзідэнту. Не змог ён таксама ўнесці змяненні ў законы аб выбарах дэпутатаў, аб рэферэндуме, мясцовым самакіраванні, зрабіць тлумачэнне некаторых артыкулаў і пунктаў Канстытуцыі, баючыся зноў жа нездавальнення прэзідэнта. Але нават такая згодніцкая пазіцыя не змагла задаволіць А.Лукашэнку, як наогул і сам Вярхоўны Савет, які ў апошні час усё ж стаў не пагаджацца з прэзідэнтам, выказваць свае погляды на палітычныя і эканамічныя падзеі. І тады прэзідэнт вырашыў пазбавіцца ад Вярхоўнага Савета наогул і для ўвядзення ў зман насельніцтва і сусветнай супольнасці замяніць Вярхоўны Савет 13-га склікання так званым Нацыянальным сходам — сваім кішэнным парламентам. Меліся навіта для гэтага спатрэбілася правядзенне чарговага рэферэндуму.

У Вярхоўнага Савета 13-га склікання, як у свой час і Вярхоўнага Савета 12-га склікання ў 1995 годзе, не знайшлося ні сіл, ні мудрасці, каб не прымаць рашэння аб правядзенні рэферэндуму, які нічога станоўчага для нашага грамадства не прынёс, а толькі паглыбіў раскол яго на дзве часткі — прыхільнікаў прэзідэнта і людзей, якія не згодны з ім і яго палітыкай.

Усвядоміўшы ўсю небяспеку прынятага рашэння аб правядзенні рэферэндуму, Вярхоўны Савет пачаў тлумачыць людзям неабгрунтаванасць і незаконнасць пытанняў, вынесеных на рэферэндум. Але работа гэтая вялася не актыўна, а таму спыніць падман і практычна захоп улады прэзідэнтам не ўдалося.

Звяртаючыся да трагічных падзей тых дзён, я нікога не хачу абвінавачваць, нікому не раблю ніякіх папрокаў, але прашу аб адным — не забывайцеся на свае памылкі і пралікі ў палітычнай барацьбе, не распаўзайцеся па розных кутках, бо гэта ніколі не наблізіць нас да перамогі. З вялікім жалем вымушаны сказаць аб гэтым таму, што баліць душа, абліваецца сэрца крывёю ад таго, што няма ладу ў нашым дэмакратычным руху, няма належнага паразумення і адзінства хаця б у асноўных накірунках нашай дзейнасці. Адсутнасць паразумення і аб'яднаных агульных дзеянняў ужо прывяла да ўсталявання аўтарытарнага рэжыму, да парушэння правоў і свабод чалавека. Амбіцыі дэпутацкіх фракцый, дэмакратычных палітычных партый, рухаў, асобных палітыкаў нікому не патрэбны, таму што яны ўмацоўваюць не дэмакратычны рух, а таталітарызм. Каб упэўніцца ў гэтым, нікуды не трэба хадзіць, ні да кога не трэба звяртацца. Трэба толькі спыніцца і спакойна паглядзець навокал на нашы агульныя дзеянні ў 1995—1997 гадах, і гэтага будзе дастаткова.

Але вернемся да тэмы размовы. У дзяржавабудаванні падзел улад на заканадаўчую, выканаўчую і судовую застаецца толькі на паперы ў назве артыкулаў, а фактычна ўсё зведзена да нуля. Не ўзначаліўшы ніводнай з галін дзяржаўнай улады, прэзідэнт узвысіў сам сябе над усёй дзяржаўнай уладай і непасрэдна падпарадкаваў сабе ўсе галіны ўлады — заканадаўчую, выканаўчую і судовую. У заканадаўчым плане дэкрэты ды ўказы, якія насуперак усяму адхіляюць раней прынятыя законы, нярэдка надаюць зваротную сілу сваім прававым нормам, якія абцяжарваюць становішча грамадзян, якім нярэдка прыходзіцца адказваць за тыя дзеянні, што адбываліся яшчэ да прыняцця таго ці іншага дэкрэта, калі такія дзеянні не з'яўляліся правапарушэннем. Выданне дэкрэтаў не адпавядае нават патрабаванням прэзідэнцкай Канстытуцыі 1996 года. Складаецца ўпэўненасць, што для сённяшніх кіраўнікоў рэспублікі ніякая канстытуцыя не патрэбна — нават тая, якую самі незаконна працягнулі і на якую любяць спасылацца.

Складаецца ўражанне, што чым больш парушаюцца правы чалавека, тым больш ідзе балбатні аб тым, што яны выконваюцца. Парадаксальная сітуацыя: краіна, якая знаходзіцца ў Еўропе, мае свае межы, ні з кім не вядзе, не вядзе ваенных дзеянняў і ўнутры рэспублікі, мае Канстытуцыю, і не адну, кіруецца ў многім дэкрэтамі ды ўказамі прэзідэнта. Гэта унікальны выпадак не толькі нашых дзён, але ўсяго дваццатага стагоддзя. Такога дзяржаўнага прымітывізму свет яшчэ не бачыў. Застаючыся як быццам над дзяржаўнымі ўладамі, прэзідэнт непасрэдна кіруе імі разам і паасобку. Напрыклад, законам, які ён падпісаў 30 красавіка 1998 года і які называецца "Аб цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні Рэспубліканскіх рэферэндумаў", з дванаццаці членаў камісіі шэсць назначаюцца прэзідэнтам і столькі ж абіраюцца Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу, прызначанага прэзідэнтам. Старшыня ЦВК назначаецца прэзідэнтам. Кандыдатура намесніка старшыні ЦВК папярэдне ўзгадняецца з прэзідэнтам.

Пры аднолькавай колькасці галасоў рашаючым лічыцца голас старшынствуючага (гэта значыць, старшыні ці яго намесніка). Такім чынам, з дванаццаці галасоў членаў камісіі прэзідэнт мае восем галасоў сваіх назначэнцаў, а адзін з іх яшчэ і рашучы. І такому складу камісіі нададзена права тлумачэння заканадаўства аб выбарах, рэферэндуме, адкліканні дэпутатаў і членаў Савета Рэспублікі. У праекце закона аб упаўнаважаным па правах чалавека, накіраваным у Палату прадстаўнікоў, прапануецца, што кандыдата на гэтую пасаду зацвярджае прэзідэнт і ён у любы час можа зволіць упаўнаважанага па правах чалавека з пасады. Атрымліваецца, як у той казцы: сам падпісваю законы, сам выдаю дэкрэты ды ўказы, сам іх парушаю, сам прызначаю чалавека, які павінен кантраляваць выкананне гэтых законаў адносна захавання правоў чалавека і які адначасова павінен асабіста мне падпарадкоўвацца.


(Заканчэнне на 2-й стар.)


**С днем рождения!**

## Виктор МАНАЕВ:

# "Талант нужно отдавать..."

*Любимец публики Виктор Манаев, известный актер Национального академического театра имени Янки Купалы, после августа этого года думает изменить свой репертуар. В связи с собственным сорокалетием. Ему все реже напоминают о "звездной роли" Одуванчика в "Рядовых" А.Дударева да о Государственной премии Беларуси. Канули в лету принципиальные и громкие комсомольские обязанности актера. Навсегда, вслед за комсомолом. Микита Зносак из "Тутэйшых" (тоже отмеченный Госпремией) и Ян Губач из "Идиллии", вдохновленные режиссером Николаем Пинигиным, вообще посмеялись бы над прошлой манаевской обязанностью, до такой степени он, Манаев, разнежил обоих своих персонажей, восхитительно выявляя их великолепное приспособленчество и подчиненность обстоятельствам. Накануне собственного сорокалетия Виктор Манаев сыграл Нормана в спектакле "Костюмер", несколько ролей в "Интимном театре Евстигнея Мировича", принял участие в антрепризном спектакле "Арт" и, выходя в роли француза Ивана, едва ли не впервые в жизни разговаривал на сцене по-русски...*

*"После этого августа, — сказал Виктор Манаев, — я перехожу на новые роли..." Кстати было бы спросить, на какие, но у актера, даже у заслуженного артиста Беларуси Виктора Манаева, роли только те, которые ему дают... Какая роль достанется ему завтра? Что он вообще думает по поводу перемен? Хочет ли он их?*

### Про судьбу

— Я верю в судьбу. И когда случается испытание не только человеческое, но и творческое, я... делаю выводы. Творчество и жизнь, по существу, это одно целое. Мы временами думаем, что можем поменять обстоятельства и подчинить себе каждую мелочь. А о людях в этих обстоятельствах кто думает? Поэтому не все перемены — к лучшему. Как после насилия выйти на сцену и повествовать о любви? О другом ведь нет смысла...

Судьбу, даже когда она не милостива, я не принимаю без веры, без обязанностей, без Бога. А Бог есть любовь... Пусть бы и судьба была ею...

Мое творческое испытание — спектакль "Костюмер". Как только у моего Нормана выросли крылья, их пришлось сложить, потому что спектакль закрыли — сэру Джону (то есть Николаю Николаевичу Еременко) доктора категорически запретили умирать из вечера в вечер. Правда, судьба заботится, чтобы в моей жизни не было крайностей типа "только этим живу, только этим дышу". Мой "Костюмер" — шестьдесят пять страниц пьесы — бездна физических усилий... В финале, скажем, когда мой герой кричит и впадает в ярость, я должен точно отсчитывать на это действие пять секунд, потом шаги вправо и влево и контролировать себя так, как приказал режиссер Николай Пинигин. Был случай, когда на спектакле сильно закружилась голова, и я на секунду-другую потерял сознание. Признаюсь, испугался. Стал анализировать. Дал себе зарок: не увлекаться. Потому что так увлеченно готовиться... к смерти на сцене — это патология, а не актерское мастерство.

### Про порядок

— А еще говорят, что я чудесно сохраняю внутреннее равновесие! В жизни нам недостает порядка и смысла, так, может, порядок на сцене — в произведении, в режиссуре — может, этот художественный порядок дает возможность упорядочить жизнь артиста? Жизнь есть суета, суета сует, водоворот, в котором мы тонем, а то, за что хватаемся, — вещи, философские системы, даже люди, — хаотическое, текучее, случайное... Меня держит в жизни профессия. Я ее не выбирал, не искал. Я ничего другого делать не умею. Говорят, талант. Но талант, по Евангельской притче, надо отдавать. Чем больше отдашь, тем больше получишь взамен. Я и получаю — зал временами просто питает и на ноги ставит (особенно, когда выходишь на сцену с температурой). Но разве можно приказать себе, мол, вот буду отдавать! Это какое-то подсознательное действие...

Как навожу порядок в квартире, в книгах, так должен наводить порядок в душе: она хорошо приводится в порядок чтением Библии. Но как долго надо было бороться с беспорядком и неорганизованностью, чтоб эту истину понять...

### Про коллег

Недавно мы — то купаловское поколение, которое критики называют "звездным" (не путать со "звезданутым"), — поняли, что сегодня нам — Белохвостик, Гарцуеву, Лабушу, Давыдько, Сидоровой и тем, кого не назвал, — сегодня нам столько же, сколько было Давидович, Захаревич, Гарбуку, когда мы только пришли в театр! Они были для нас бесспорными авторитетами и мастерами, у которых было чему поучиться. Вприглядку, конечно, потому что наставничество как таковое в Купаловском театре не практикуется. Мы учились любить театр, наблюдая, как они относятся к своему делу. Как Гарбук гримируется, даже теперь, когда это... немодно. Как накладывает тон, как делает фактуру лица, — этому не научишь. Это как... актер — или он есть, или его нет. А я же еще помню Ростислава Янковского в "Макбете"! Учился тогда в девятом классе и, как теперь помню, собирал с одноклассников по рублю, чтобы всех отвести в Русский театр и показать то, на что стоило посмотреть. Таким же самым образом водил их на "Забыть Герострата!" в Купаловский театр — сначала сам смотрел, оценивал, а потом даже учителей соблазнял побыть с нами вечер-другой в зрительном зале...

### Про Купаловский театр

— Я и теперь не на каждый купаловский спектакль осмелился бы пригласить друзей. По разным причинам. Нашим спектаклям, например, ощутимо не хватает формы, в которой может определяться и существовать театральное искусство. Форма "Кровавой Мери", которую придумал Саша Гарцуев, отлично наложилась на мое "кукольное" воспитание (Виктор Манаев учился на актера театра кукол. — **Авт.**), а я и хотел бы иногда взять куклу в руки... Может, из кукольного театра я взял форму существования многих своих персонажей, — они иногда неловкие, немного сутулые, то заторможенные, медлительные, то суетливые, но в движениях что-то от марионетки...

Хорошо, что драматический театр не делится на солистов и кордебалет или хор. Одно дело, когда роль на шестьдесят пять страниц, когда за чистотой формы роли надо следить и следить! Другое дело — эпизоды, где должен попасть в сочетание внешнего и внутреннего, выявить его концентрированно, изобразить человека рельефно. Думаю: а чем он озабочен, отягощен? Это не внешнее действие, а внутреннее. Спрятанное. И когда его уверенно нащупаешь, то... делай и будет получаться! И так убедительно! Не потому ли в последнее время я так полюбил радио? Почитать детям сказки в "Калыханцы" — такая радость! А какая тренировка: приходишь за пять минут до эфира, тебе дают текст, и тебе одному надо сыграть пять персонажей. Быстренько. А какие хорошие передачи достались мне в наследство от Юры Аверьянова (трагически погибший актер Купаловского театра. — **Авт.**)! Та же самая "Терра гармония" с интонацией доверчивой беседы: мое отношение к композитору, например, может помочь обратить чье-то внимание на его произведения. Телевидение основано на суете. Хотя я и жду, можно ли будет сделать на телевидении что-нибудь такое, чего нельзя сделать в театре. Хоть то, что делаю в театре, дороже всего. В театре даже за ошибки не надо наказывать, им надо сочувствовать. Может, так должно быть и в жизни? В жизни побеждает не тот, кто рассуждает, а тот, кто любит. Так, от любви может быть больно, но кто решил, что больно быть не должно? Может, так и в театре... должно быть? Чтобы потом выйти на сцену и повествовать — о любви. Потому что о другом нет смысла...

**Виктора Манаева слушала и записывала**

**Жанна ЛАШКЕВИЧ.**



**Фото Евгения КОКТЫША.**

## Надвор'е

5 і 6 жніўня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, 5 жніўня — на большай часткі тэрыторыі рэспублікі дажджы, навальніцы. 6-га — пераважна без ападкаў. Вецер паўднёвы, з пераходам на заходні, парывы да 4—9 м/с; пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы 5-га — +14...+19, 6-га — +10...+15; удзень +21...+26, 5-га — па паўднёвым усходзе да +28.

**Трывожна**

# Чаму гіне рыба?

З многіх месц паступаюць сігналы аб масавай гібелі рыбы. Відавочцы сцвярджаюць, што дохлай рыбай літаральна забруджана Гайна, іншыя рэкі Міншчыны і Магілёўшчыны. Пры гэтым ходзяць чуткі, нібыта віной таму нейкія шкодныя выкіды ў вадаёмы з перапрацоўчых фабрык салігорскіх руднікоў.

Каб высветліць, у чым справа, я пазваніў у Камітэт рыбаахоўы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Намеснік старшыні Камітэта Кацярына Іванаўна Хлюстунова патлумачыла, што мор рыбы ахапіў у асноўным рэкі Міншчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны. Такой вялікай яе гібелі не помняць ні старажылы, ні спецыялісты. А прычынай бедства сталі пастаянныя дажджы, якія перапоўнілі сваёй вадой балоты. У выніку парушыўся іх газавы рэжым, што і прывяло да гібелі рыбы. Яна гіне ў асноўным у рэках, вытокі якіх з балот. На азёрах, вадасховішчах, у сажалках усё нармальна, рыба нармальна гадуецца.

Якія ж страты рыбы? Спецыялісты пакуль не могуць назваць канкрэтныя лічбы. У некаторых месцах назіраецца па пяць штук загінуўшых рыбін на квадратным метры, у другіх — паболей. У Камітэце рыбаахоўы створаны штаб, наладжана кругласутачнае дзяжурства. Грамадзяне могуць перадаць важную інфармацыю па мінскім тэлефоне: **223-76-71.** Спецыялісты рыбаахоўы аператыўна выязджаюць у крытычныя месцы. У дзень, калі я званіў, рыхтаваўся дэсант на раку Бесядзь, дзе зафіксавана гібель сома, каб ратаваць гэту каштоўную рыбу.

Спецыялісты таксама лічаць, што нягледзячы на вялікі мор, запасы рыбы могуць быць хутка адноўлены.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

# З пачатку года рынычны курс долара ЗША да беларускага рубля ўзрос у 1,8 раза

За прайшоўшыя два тыдні (20 ліпеня — 2 жніўня) курс долара ЗША да беларускага рубля прыкметна павысіўся на ўсіх сегментах валютнага рынку. Лідэрам росту стала каціроўка долара да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку — 7,1 працэнта (з 69.000 — 71.000 да 74.000 — 76.000 рублёў). На 6,3 працэнта (з 59.000 — 60.500 да 63.000 — 64.000 рублёў) падаражэў долар на "чорным" рынку наяўнай валюты. Аднačасова ў абменных пунктах камерцыйных банкаў курс долара павялічыўся на 2,3 працэнта (з 55.000/57.000 — 57.500 да 57.000/58.300 — 58.500 рублёў).

На Міжбанкаўскай валютнай біржы за аглядаемы перыяд долар павысіўся ў цане на 5,5 працэнта (з 39.800 да 42.000 рублёў), нямецкая марка — на 6,0 працэнта (з 22.270 да 23.600 рублёў), расійскі рубель — на 4,4 працэнта (з 6.400 да 6.680 рублёў). Кошт украінскай грыўны заставаўся на ўзроўні 30.700 рублёў.

За ліпень гэтага года біржавы безнаяўны курс долара ўзрос на 11,4 працэнта, пазабіржавы безнаяўны — на 10,3 працэнта, банкаўскі наяўны — на 11,1 працэнта, "чорны" наяўны — на 6,3 працэнта.

За сем месяцаў 1998 года пазабіржавы курс долара павялічыўся на 81,4 працэнта, біржавы — на 36,6 працэнта, "чорны" наяўны — на 60,8 працэнта, банкаўскі наяўны — на 50,9 працэнта.

# Курс долара ЗША да беларускага безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку дасягнуў 81 тысячы рублёў

На пазабіржавым валютным рынку зафіксаваны новы скачок курсу долара ЗША да беларускага безнаяўнага рубля. У панядзелак, 3 жніўня, ён павысіўся адразу на 6 працэнтаў, з 74.000—76.000 да 78.000—81.000 рублёў, а за апошні тыдзень рост курсу склаў 12 працэнтаў.

Па словах спецыялістаў расійскага камерцыйнага банка "Дыялог-Опцім", які актыўна працуе на рынку беларускага рубля, чарговы абвал беларускай грашовай адзінкі адбыўся дзякуючы з'яўленню на рынку вельмі буйнога пакупніка валюты, які канверсуе рублі ў СКВ нягледзячы на курс. Спецыялісты не выключаюць павелічэння кошту долара да 85.000 рублёў, аднак, па іх словах, найбольш верагодны адкат да 75.000—77.000 рублёў, паколькі рынак пакуль псіхалагічна не гатовы праводзіць аперацыі па такіх высокіх каціроўках.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**Незалежная экспертыза**

# Дзе ж гэты казачны рай?

Калі чытаеш даклад Міністэрства статыстыкі і аналізу аб рабоце народнай гаспадаркі ў першым паўгоддзі, дык адчуванне такое, нібы трапіў у нейкую казачную краіну Беларусь, дзе з кожным месяцам жыццё людзей становіцца ўсё больш шчаслівым і заможным, дзе паскоранымі тэмпамі будуецца зямны рай.

Вось пачытайце. На старонцы 72-й даклада Мінстата напісана: "Прадпрыемствамі грамадскага харчавання ў студзені — чэрвені 1998 года рэалізавана прадукцыі... на 40,8% болей, чым у студзені — чэрвені 1997 года". У перакладзе на жыцейскую мову гэта азначае, што сёлета ў сталоўках людзі з'елі амаль у паўтара раза болей розных прысмакаў, чым летась. Калі верыць гэтай лічбе, дык наведвальнікі ў сталоўках і кафэ цяпер бяруць ужо па два салаты і па два другіх блюды. Калі такімі тэмпамі будзе паляпшацца жыццё і далей, дык кожны праз год на абед пачне ўжо браць па чатыры салаты, два першыя блюды і тры-чатыры другія. Во якая абедзенная перспектыва.

Яшчэ больш уражальныя дасягненні ў справе пакупкі тавараў. "За студзень — чэрвень 1998 года насельніцтву прададзена спажывецкіх тавараў і аказана платных паслуг... больш чым у студзені — чэрвені 1997 года ў два разы", — чытаю на старонцы 69-й. Адчуваеце, які рост?! Гэта значыць, што калі нехта летась купіў адзін тэлевізар і адну пральную машыну, дык цяпер ужо прыдбаў яшчэ два тэлевізары і дзве пральныя машыны. Калі гэтыя тэмпы захаваюцца, дык у наступным годзе ён купіць яшчэ чатыры тэлевізары і чатыры пральныя машыны і ў яго ўжо будзе гэтых рэчаў па сем штук.

А чаму б і не купляць, калі зарплаты і пенсіі растуць астранамічнымі тэмпамі. Так, у дакладзе Міністэрства статыстыкі і аналізу гаворыцца, што намінальная сярэднемесячная зарплата ў студзені— чэрвені 1998 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага вырасла ў два разы. Пенсіі таксама падвоіліся. А паколькі ў многіх кватэры ўжо забіты шыкоўнымі рэчамі, дык людзі аддаюць свае грошы ў банкі, дзе назіраецца вялікі прырост грашовых зберажэнняў грамадзян. З 1 студзеня яны выраслі на 24,9%. Напэўна, яны адкладваюць лішнія грошы на новыя "Мерседэсы" сабе і сваім дзецям.

Вось такое заможнае жыццё малюе статыстыка. Закрываеш даклад, глядзіш у вакно, і казка знікае. Бо за ім зусім іншы малюнак. Якую ж трэба мець фантазію, каб нашу рэчаіснасць адлюстраваць такімі фарбамі!

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

**Так и сказал...**

**"Нам демократия надо, когда человек работает, получает хоть какую зарплату, чтобы и хлебушка купить, молочка, сметаны, творожку, иногда кусочек мяса, чтобы накормить ребенка, и так далее. Ну, с мясом уже давайте — летом много есть не будем".**

*(Из беседы А.Лукашенко с рабочими Минского автомобильного завода, 28 мая 1998 года.)*

**Газета — чытач**

## Да сустрэчы ў пятніцу

Наступны нумар "Народнай волі" выйдзе ў пятніцу, 7 жніўня.

У чацвер — планавы нявыхад.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

**Прощай!**

# Перестало биться пылающее сердце белорусского правозащитника Алексея Филипченко

*"Он любил людей. И вот его сердце вспыхнуло огнем желания спасти их. И вдруг он разорвал себе грудь и вырвал из нее свое сердце и высоко поднял его над головой. Оно пылало так ярко, как солнце, и ярче солнца, и весь лес замолчал, освещенный этим факелом великой любви к людям, а тьма разлетелась от света и там, глубоко в лесу, дрожащая, пала в гнилой зев болота".*



Легенда о пылающем сердце Данко, рассеявшем окружающий мрак, стала в центре Европы реальностью. На Беларусь, как и на родину Данко, пришла тяжелая пора — люди стали уходить из жизни один за другим. Веселые, сильные, смелые белорусы, как и соплеменники Данко, пали духом. *"Страх родился среди них, сковал им крепкие руки".*

Подвиг Данко повторил 8 июля 1998 года в Новополоцке 48-летний Алексей Филипченко. Пламя от трех литров бензина, которые Алексей вылил на себя, поднялось выше деревьев, окружающих городское здание суда. Правозащитник Филипченко осветил собою путь людям.

*"Гордый смельчак Данко кинул радостный взор на свободную землю и засмеялся гордо. А потом упал и — умер".* Полыхающий Алексей Филипченко стоял молча и лишь с укором взирал на окна новополоцкого здания Фемиды с замершими в них каменными судейскими лицами. И молча упал на землю.

Но еще целых 23 дня билось в груди борца его пылающее сердце. Умер Алексей Иванович в последний день июля. Умер, как и Данко, вечером на закате, ничего не прося в награду от людей, во имя спасения которых сжег себя. Однако смерть народного защитника Филипченко не будет напрасной. Белорусы, как и вдохновленные самоотверженным огненным порывом соплеменники Данко, преодолеют страх перед "болотом и тьмой", воспрянут духом, осознают свою силу и разорвут опутавшие их цепи бесправия.

Похороны "народного Адвоката" Алексея Ивановича Филипченко, пожертвовавшего своей жизнью ради оказания помощи порабощенным белорусским гражданам, — сегодня, 5 августа 1998 года в 13 часов. Прощание с витебским правозащитником состоится в городе Новополоцке. Гроб с телом покойного установлен в общежитии ПО "Нафтан" (дом N36 по улице Парковой).

Друзья и соратники белорусского Данко приглашают городские, областные и республиканские власти, в том числе и главу государства, проводить в последний путь бесстрашного правозащитника.

Чтобы помочь своему народу, Алексей Филипченко отдал самое дорогое, что есть у человека, — жизнь. И потому на его могиле, видимо, надо начертать слова Данко: *"А вы? Что сделали вы в помощь себе?"*

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

